# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 28 (1730) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 9 ЛІПЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.


**(Размова з Аляксеем Каўкам, старшынёю Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны).**

# Выйсці з чужога цяню

*Аляксей Каўка, 1937 год нараджэння, з Міншчыны. Рос без бацькоў, выхоўваўся ў дзіцячым доме. Скончыўшы бібліятэчны тэхнікум у Мінску, працаваў нейкі час сельскім бібліятэкарам. Пасля службы ў арміі — працаўнік камсамольскай арганізацыі. Завочна скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Затым быў праз УЛКСМ скіраваны ў аспірантуру на гістарычны факультэт. Даследчык польска-савецкіх адносін. Аўтар шэрагу артыкулаў і манаграфіі (на рускай мове) „Польшча: айчына і сацыялізм". У гадах 1979-82 — райца Савецкага пасольства ў Варшаве. Зараз Аляксей Каўка — навуковы працаўнік Інстытута сусветнай літаратуры імя Горкага ў Маскве.*

— Аляксей Канстанцінавіч скажыце, калі ласка, хто быў аўтарам ідэі утварэння Таварыства беларускай культуры ў Маскве? Як людзі адгукнуліся на гэта?

— Думка аб згуртаванні беларусаў, беларусаў-інтэлігентаў Масквы, якія жывуць тут і працуюць, у кантэксце ўсеагульнага абуджэння краіны і нацыянальнага адраджэння, спакваля нарастала між намі. Мы тут здаўна абменьваліся па тэлефону такой ідэяй. Мы ведалі, што ў Маскве ўжо амаль ад году дзейнічалі армянскае, яўрэйскае, татарскае таварыствы. Але перад усім заінтрыгавала нас узнікненне ўкраінскага. Асобную падзяку выказаць трэба аднак маладым беларусам. У нас вешаюць на нефармалаў сабак. Але ж гэта ім належыць ініцыятыва — гэта яны назвалі па імені нашу глухату, слепату, цемнату і наш страх. І тут, у Маскве, маладыя беларусы, якія ж таксама сталі ў чужым цені, у цемнаце, вось гэтыя нашыя студэнты дайшлі да сведамасці і згуртаваліся. Калі адбываўся іх выбарчы сход, яны запрасілі і нас, старэйшых. Мы падаліся туды, калі яны стварылі суполку „Пагоня". Там жа была абрана наша ініцыятыўная група, якая мела пад 70-ыя ўгодкі Беларусі падрыхтаваць наш сход. 30 снежня 1988 года прыйшло чалавек 30 — інжынераў, лекараў, пісьменнікаў, вайскоўцаў, вучоных. Вось у гэты дзень мы заявілі аб сваім існаванні. Прынялі Зварот, які гаварыў пра нашыя мэты. Выбралі таксама Раду таварыства, 13-асабовую. У яе ўвайшлі такія выдатныя, актыўныя людзі, як Алеся Бабарэка, Іван Бурсаў, Хведар Канстанцінаў, Валянціна Шчадрына, Валеры Голуб, Юрка Чудзін, Алесь Чайчыц... Але пакуль канчаткова не выкрышталізаваўся статут Таварыства і пакуль мы не зарэгістраваныя — кіраўніцтва разглядаем як часовае. Прыемна адзначыць, што ўзнікненне Маскоўскага таварыства беларускай культуры было заўважана. У наш адрас прыйшлі прывітальныя тэлеграмы з Саюза беларускіх пісьменнікаў, з Беларускага фонду культуры, ад дырэктара Гомельскага універсітэта, ад Беларускага згуртавання „Сябрына" з Вільні, ад Беларускага таварыства ў Беластоку. Прыйшло дзесяць лістоў ад мастакоў, вучоных, пісьменнікаў — між іншым ад Адама Мальдзіса, Уладзіміра Калесніка, Данута Бічэль-Загнетавай і іншых.

— Якія мэты ставіць Таварыства?

— Хочам мы, каб душа беларуская — жывая, рэальная, драматычная — была знана ў маскоўскім асяроддзі. Сваім актыўным існаваннем мы хочам паўсюдна голасна аспрэчваць дзікія стэрэатыпы, якія склаліся аб беларускай культуры, мове,

(Працяг на стар. 4)



На лодцы цераз раку Нарву. Фота Я. Целушэцкага.

## З ДРУКУ

### НАШЫ РАЗВАГІ

— пад такой рубрыкай у 97-м выпуску праграмы Беларускага тэлебачання „Роднае слова" (Мінск) вялася гаворка аб беластоцкім тыднёвіку „Ніва". Падаём запіс тэксту гэтае публікацыі:

„Яшчэ перад Новым годам у газетных кіёсках беларускае сталіцы, як дзіўная навінка, мільганула газета БГКТ у Польшчы „Ніва". Гэта было сустрэта людзьмі з радасцю, як прыкмета перабудовы, дэмакратызацыі. Пра тое, каб цікавая сваім зместам „Ніва" вольна прадавалася ў нашых кіёсках, як прадаваліся і прадаецца, скажам, „Трыбуна Люду", размова вялася не адно дзесяцігоддзе, але нашы „дарагія" бюракраты рабілі ўсё, каб пра газету ніхто нічога не ведаў. Адзіным, хто раней мог мець пастаянны доступ да „Нівы", быў Саюз пісьменнікаў. А вось каб так паказаць газету народу, то крый божа!...

Але вось беластоцкая „Ніва" прабілася ў нашыя кіёскі. Наіўныя, мы падумалі, што цяпер можна будзе сістэматычна заглядваць кожны тыдзень да кіёска і купляць жаданую газету. На жаль, спадзяванні не спраўдзіліся: газета імгненна стала дэфіцытнай. Такая сітуацыя, як пісалася ў тыднёвіку „Літаратура і Мастацтва", амаль паўсюдна на Беларусі. Напрыклад: „Беластоцкая беларуская „Ніва" ў Жодзіна вялікая радасць. Мне, — піша інжынер А. Доўгі, — не даводзілася страчаць тых шчаслівўчыкаў, якім удавалася б купіць два і больш яе нумароў запар".

Тэлегрупа „Роднага слова" вырашыла пацікавіцца праблемай у Міністэрстве сувязі БССР. Вось што расказаў начальнік аднаго з аддзелаў М. А. Дубоўскі.

— Да гэтага часу „Ніва" лічылася выданнем, якія распаўсюджваюцца толькі ў розніцу, таму не ўносілася ў падпісны каталог. Факт гэты, відаць, здзівіць тых, хто ўжо два гады атрымлівае „Ніву" па падпісцы і толькі сёлета ўбачыў яшчэ і ў кіёсках. Так. Але гэта, як кажуць, наша мясцовая ініцыятыва, неафіцыйная. У Маскве дзе і вырашаецца колькасць паступленняў, „Ніва" яшчэ праходзіць сярод розніцы. А разнарадкі даюць, шчыра кажучы, дзіўныя: у Брэсцкую вобласць — 700 экземпляраў, Віцебскую

(Працяг на стар. 2)

# Юльяна Вітан-Дубяйкоўская
# Смерць Івана Луцкевіча

— 5 —

„Божа, — думала я, — каб ён толькі застаўся гэткі спакойны, каб на яго не напаў сум і жах смерці!“ — Але вось ён расплюшчыў вочы.

— А, ты тут, — радасна казаў ён.

Я яго перапрашала, што так позна прыйшла, бо позна паклалася і была змучаная доўгім шпацырам.

— Нічога, сёння перад абедам я не быў адзін, — адказаў Іван, — у мяне быў у гасцях ксёндз і мы вялі паважную гутарку.

— Зноў аб палітыцы?

— Не, — паважна адказаў Іван, — гэтым разам аб справах Божых. У душы я ўсцешылася, значыць ксёндз яго падрыхтаваў, і каб не закрануць гэтай далікатнай справы, я спыталася Івана:

— А як ты спаў? Учора мы абое былі моцна ўзрушаныя.

— Спаў добра, Юлінька, мне на душы лягчэй зрабілася, вось я не ведаў, што ты так шчыра маліцца ўмееш.

— Ах, Ясенька, мы яшчэ не ўсё ведаем адзін аб адным, бо ніколі часу не мелі для сябе асабіста, заўсёды перашкаджалі нам пагутарыць па душы або справы, або чужыя людзі.

— Так, Юлінька, але цяпер мы маем час пагутарыць і памаліцца. Ты сёння памаліся за мяне, каб Бог мне хутчэй дараваў здароўе.

— Ведама, родны мой, я буду аб гэтым маліцца. Вось, Яська, ты казаў, што табе зрабілася лягчэй, а ведаеш, што табе будзе не толькі на душы лягчэй, але і весялей, калі ў святым прычасці ачысціш душу сваю.



*Юльяна Вітан-Дубяйкоўская (унізе) са сваёй сястрой Ляляй Менке.*

— Юлінька, ты гэта добра сказала!

— Ну, а ты будзеш аб гэтым развaжаць, мой родны, так? — і я глянула яму ў вочы і пацалавала руку; я зразумела, што ў душы сваёй ён ужо паяднаўся з Богам. Ціхая малітва супакоіла маё збалелае сэрца і я моўчкі сядзела. Але вось прыйшла Ляля, яна весела пачала апавядаць, што пры гэтай пагодзе ўсе ейныя знаёмыя паправіліся, вось і пан Іван выглядае весялей і лепш. Яська заўсёды з гэтага цешыўся. Ляля спыталася, ці заўтра можа прыйсці перад абедам пан Міхайла з адным прыяцелем, які прыехаў яго праведаць і будзе рады пазнаёміцца з панам Іванам. Іван ахвоча згадзіўся, а нам быў ужо час ісці дадому. Я Лялі сказала, каб зайшла да сястры паведаміць, што мы выходзім. Ляля мяне зразумела, яна там доўж засталася, а я, як учора, узяла ягоныя рукі ў свае і адмовіла пацеры гэтым разам за ягонае здароўе і ён ціха паўтараў. Калі Ляля вярнулася, ён ёй на развітанне міла сказаў:

— А ты, Ляля, молішся, каб Бог даў здароўе?

# Калодзеж

Жыцці то мы хацелі, каб яна тут жыла, бо што ж Андрэй сам. І ішлі мы, і дапамагалі, бо ў яго ж няма свайго каня, ні клуні, ні нічога. То і ставілі, і дапамагалі. І яму адзінокаму было кепска, і ёй адной. І няхай жылі б. То яны замест таго, каб добра жыць і жыць па-суседску, то яны гарэлачкай заняліся. А дзе ты тое дабро ўбачыш... Зіма, то Андрэіха прыйдзе: „Вы, суседко, да ямы няма як дабрацца, замерзла, бульбы далі б мне крышачку“. І хлеба, і каня, і кафляў на печ, і плітой хату выбілі... А цяпер найгоршы вораг. Бо, „замальдавала“, як яна кажа. Колькі раз кажу свайму, дай яму каня, але не трэба гэтай гарэлкі. Мой заарэ канём, Андрэй паставіць паўлітра, разам вып'юць і столькі тае заплаты. Конь дармовы і работнік дармовы. У Ш. за дзінатуру прыдзе такі паробіць, за дзінатуру! Шклянку наліе, хлопне — каровы папрыганяе, дроў нарубае і сена прывязе; за грошы не хоча: „Я табе не парабак!“ А паставіш бутэльку на стол, засмяецца і робіць. Не будзе есць, а вып'е.

Як гэта было? Паказалася тая інфармацыя ў газеце. Аб малінах у вёсках. Мне ў краме далі гэтую газету. Я прынесла дахаты і паказваю чалавеку. А ён гэтую выразку паказаў узяў на рабоце. А якраз яны выплату ўзялі і мой з гэтым Андрэем пабіліся. Як яго жонку злавілі за руку з водкай, то яна пачала на мяне казаць, што гэта я данесла ў міліцыю, а пасля як засудзілі, то яна прыехала ў Ш. і кажа: „Ха-ха-ха, што то ўкаралі, мала ўкаралі — што то было, Андрэй прынясе сто тысяч, я далажу і аддам, і ўсё“. Андрэіха грошы мае, яна цэлае жыццё з гэтай водкай... Аня Цімахова гаварыла: „Ці яна калі на днёўку хадзіла, ці на заробкі да людзей, ці як... О, мы цяпер то цешымся, добра, добра, бо як яна была ў Ш., то тут быў цэлы бар, і маладыя і старыя ўсё ішлі, да таго балячка была. Як пайшла з вёскі, то цешыліся. А цяпер то цешымся, што можа не будзе гандляваць...“

А Андрэіха цяпер кажа: „Хай Бог бачыць маю крыўду, ёй аддасць за тое, што данесла ў міліцыю“. А як яна, то не бачыла гэтае крыўды, столькі год папацягнула з людзей крыві, папассала, то гэта не крыўда?! Ёй ужо 52 гады, а яна ўжо ад маленькае гэтым займаецца, бо і маці гандлявала водкай. І кажа: „Шкада табе? Я нікога сюды не клічу“. Сама п'е і ўсе бачаць, колькі купляе, забірае з крамы ў Ш. апошнія бутэлькі, нават „ніто“.

У нядзелю вечарам Андрэіху злавілі, якраз фільм быў. Чакаў міліцыйны самаход у хваінцы. Расказваў пасля на рабоце Андрэй: „Мая не п... доўга, адразу сказала міліцыянтам, якая то к... замальдавала“. А мала то жанок магло б замальдаваць!

Яна сама вінавата. Я ёй колькі раз казала: „Не купляй і ні продай, і ні наракай, што ён п'е“. Як з ёю п'е, то добра, а калі пойдзе сам дзе піць, то прыйдзе да нас і ўжо: „Ой-ёй-ёй, я не буду тут жыць, не вытрымаю“. І ўсё яны тую водку то самаходам возяць, то яна з крамы на веласіпедзе вязе. Калі яшчэ жыла з ім у Ш., то ўсе жыхары смяяліся, што дастаўшчыка ўзяла — у той яго чорнай сумцы аж вушы трашчалі, усё з Гайнаўкі ні з Гайнаўкі валок па дзесяць бутляў. Вазіла, пакуль не давазілася. Няма такога гаршчка, каб варыў сто год.

Сёння Андрэй зноў не паехаў на работу, прапаў дзесьці, ужо сем дзён водпуску выкарыстаў. А можа і чатырнаццаць. А што будзе, як прыйдзе лета — сенакосы, жніво? П'е безупынна ад восьмага сакавіка, а сёння дзевятае красавіка. І бач, кепска зробіць, і ўсё, але ж па-суседску, думаеш, а нуж што і сталася, ужо шкада, як той казаў... Як цвярозы, то не адазвецца, а як вып'е — то такі ўжо рызыкант. І п'юць разам Андрэй з жонкай штодня, прывыкшы. Ну, што ж, часам трэба якую чарку выпіць мужыкам. Але ж не аж так!

Што з людзей гарэлка робіць! І Андрае думаюць, што за гарэлку ўсё можна, і кожны ім усё зробіць.

У нас малая вёска, але трэба выкараніць зло, павінны быць усе сумленныя. У вялікай вёсцы можа назбірацца ўсялякіх, а тут некалькі чалавек і хат ды прыйшла нейкая зараза. Пражылі столькі год. Як Андрэіха хоча тут жыці, няхай жыве як чалавек. Ёсць поле, ёсць лугі — можна трымаць цяляты, каровы ці авечкі, Андрэй да работы ходзіць. Можна жыць. А яна, замест працаваць, толькі паўлітра дасць, і ёй ужо гной выкінуць, дроў нарэжуць, а яна толькі рукі назад, грудзі ўпярод і пайшла! Мы тут ужо і дзяцей пагадавалі, павучылі, па трыццаць і больш год тут жывем, а Андрэіха ходзіць па вёсцы і гаворыць: „То не людзі, з імі нельга жыць. У Ш. жыла столькі год і ніхто не данёс, а тут толькі прыйшла, і ўжо ім балячка!“ А мы былі такія задаволеныя, што Андрэй аблагі заараў, а то людзі рабілі матчыну зямлю. А цяпер п'е, цягне іншых. Праз яго і маці пайшла на той свет. Без пары. Яшчэ магла б жыць, бо то з калісьніх людзей была, здаровая, і арала, і дзяцей сама пагадавала. Так Андрэй хоча, каб і ў нас было: калі б я гебнула, то сын па-парадку, як калісь Андрэй, папрадаваў бы — то каня, то воза, каб было за што піць. Калі я бачыла, як яго калодзеж забіралі. то мне душа, душа балела. То людзі павыбіраліся ў гарады, а дзе былі дамы — падмуркі толькі стаяць, калодзежы стаяць, ніхто не прадаў калодзежа, бо можа які чалавек будзе праязджаць, захоча напіцца. А ён з уласнага прадаў кругі і смеццем заваліў!

Мой сын вярнуўся з арміі, то Андрэй цягнуў яго да кампаніі. І кажа: „Я сам магу піць, за сваё п'ю. Я магу, я маю, то і п'ю“. Кінуўся мяне выкідаць са свае хаты, калі я пайшла за сынам. А што, я ўжо не магу туды зайсці? Гэту хату, дзе ён жыве, мой бацька ім паставіў. Кінуў калісьці іх бацька малых, а дзяўчынкі хворыя былі. Якое было ім жыццё! А што сама баба дасць рады?! Пазурамі маці трымалася за зямлю, каб пакінуць яе яму. Ты мяне, кажу, не выкідай, бо ты нават трэскі тады не падняў! Ты мяне выкідаеш, а я прыйшла, каб ты жыў як чалавек! Крыўда — хочацца, каб было добра і гожа перад Богам і людзьмі. А ён важны: „Я піў і піць буду, ты мне не раскажаш“. Сястра яго пытала, як там Андрэй са сваёй кабетай. Мы былі цешыліся — з бабай, як то з бабай; і памые, і папрача, але што да піцення, то... Як гарэлка псуе чалавека!

Трэба ў якісьці далікатны спосаб навучыць Андрэіху, каб яна жыла сумленна, па-людску. Хай жыве, хоць сто год. Хай жывуць добра абое. Але дакуль водка там будзе, то не будзе шчасця ні ў іх, ні ў нас.

Але што, калі водкі тут не хопіць, то пабягуць да Старой Медзвядзіцы — там заўсёды ёсць запас. Каля яе хаты ўсе самаходы з будовы вадасховішча стаяць на ранкі. Весялей едуць да работы. Як так можна, найстарэйшая ў вёсцы жанчына! Другую пенсію дарабляе. Сама яе нявестка кажа, што можа калі і не піла б, і муж не піў бы, але водка на месцы ёсць. Калі няма кліентаў, то аж хворая. Ведае, калі ў каго выплата і толькі чакае, калі грошыкі пасыплюцца.

Жыццё на вёсцы не простае. Столькі хлопцаў нежанатых. П'юць. Не будзеш дзедам хадзіць цэлае жыццё. Ажаніцца — не цяліцца. Малады, харошы, здаровы, каб яшчэ гэтых малін не ведаў, то й гаспадар будзе добры. За такога і дзеўчына пойдзе на вёску. А так — папапускаліся. Не дай Божа, каб чужыя па нашых землях хадзілі! Таму мы так тут і бядуем.

Каб даў чалавеку атруту — не выпіў бы, а так бярэ, бярэ паступова і труціць цела і мазгі. Сонца не хоча свяціць ужо на гэту зямлю. Неба як жалеза. Людзі сонца не бачаць. Адзін затуманены ад водкі, іншы ад нерваў. Не ведае, што рабіць.

Запісала **Міра Лукша**

— Але, пан Іван!

— Тады адпачывай добра.

Па дарозе Ляля мне сказала:

— Юлінька, Іван выглядаў, як дзіця, якое перапрасіла бацьку і цяпер зноў радаснае і вясёлае.

— Так, Лялінька, ягоная чыстая душа ўсё больш вызваляецца з зямной абалонкі.

У нядзелю, 17-га жніўня Ляля, я, пан Міхайла і ягоны прыяцель пан Астап рана пайшлі пехатой у санаторыю. Ляля збірала кветкі для нашага дарагога хворага, а мы гутарылі аб бягучых палітычных справах. Паны Міхайла і Астап былі таго погляду, што не толькі беларускія, але і ўкраінскія справы на міжнародным форуме не маюць належнага зразумення і прыхільнікаў, што трэба будзе і надалей змагацца ўсялякімі спосабамі, калі іх пакінуць на з'ядзенне ваўкам, гэта значыць, на падзел паміж Расеяй і Польшчай. Я прасіла не трывожыць Івана гэткімі перспектывамі, ён верыць у незалежнасць Беларусі і няхай адыходзіць з гэтай радасцю.

— Ну, я заўсёды апавядаю пану Івану штосьці вясёлае, — заўважыў пан Міхайла.

Іван вельмі ўсцешыўся новаму госцю. Пан Астап быў каапертатарам і тут пачаліся гутаркі на гэтую тэму, што трэба не толькі школы, але і кааператывы пашыраць сярод сялянства, каб зрабіць яго матэрыяльна мацнейшым. Іван цікавіўся поспехамі культурнае працы сярод украінцаў і казаў ім:

— Вам лягчэй, вы маеце ў Галіччыне кадры выхаванае інтэлігенцыі, а нам яшчэ трэба выхоўваць, але нічога, мы вас хутка дагонім.

Іван па-старому быў аптымістам і ўсе стараліся трымаць яго ў добрай веры, што ўсё ідзе на лепшае. Так у агульнай гутарцы мы і не заўважылі, што надышоў час абеду. Госці тады ўсхапіліся, сардэчна развіталіся з Іванам, абяцалі зноў яго праведаць і разам з Ляляй выйшлі.

— Бачу, Ясенька, ты зашмат гаварыў, табе трэба цяпер адпачыць, — казала я.

— Так, я ўздрамну. — Але вось прынеслі абед і я пайшла ў сталовую. Ксёндз, відавочна, чакаў мяне, бо адразу падышоў, прывітаўся і сказаў, каб я пасля абеду чакала яго на верандзе, каб пагутарыць. Пасля абеду я выйшла на веранду і села ў кутку. Хутка прыйшоў і ксёндз і, прысеўшы да мяне, пачаў:

— Магу паню пацешыць, што пан Луцкевіч падрыхтаваны да атрымання святых сакрамантаў.

— Гэта для мяне вялікая радасць. Я вельмі непакоілася, як гэта будзе са споведдзю, ці гэткі хворы зможа выпаўніць такое цяжкае заданне?

— Няхай пані не турбуецца, я не буду мучыць пана Луцкевіча доўгай споведдзю. У час майго апошняга візіту ён сам ахвоча мне расказаў аб сваёй грамадскай працы, жыцці і намерах на будучыню, і калі толькі папрaвіцца, то хоча жаніцца і тутака з найвялікшай любоўю і прывязанасцю казаў аб пані. Дзеля таго, што дні пана Луцкевіча палічаныя, то я ахвотна звянчаю вас.

— О, я ўзрушана гэткай прапановай і ад сэрца дзякую, але гэта звязана з рознымі фармальнасцямі, на якія патрэбна шмат часу, і затым гэта было б за шмат узрушання для нас абодвух. Не ведаю, як на гэтае ўзрушанне адказала б слабое сэрца хворага і мае нервы маглі б адмовіць паслухмянасці, бо гэта для мяне заўсёды была балючая справа.

— Проша пані, у такіх выпадках касцёл робіць вялікія ўступствы, што да фармальнасцяў. Я лічу, што пані будзе на гэтым залежыць, каб упарадкаваць сваё праўнае становішча адносна сваякоў і затым, пані, як набожная жанчына, будзе ў парадку адносна касцёла, калі панству будзе дадзены сакрамант сужонства.

**(Працяг будзе)**




Ішла вайна. Бацька Зоі быў ваеннаслужачым, маці таксама. Ваявалі яны ў адной часці. Зоі тады было 13 год. Не было з кім пакінуць яе дома, і камандаванне дазволіла бацькам узяць дзяўчынку з сабой.

Ваенная часць была лётная, у адлегласці не менш 300 кіламетраў ад фронту. Часць ішла на захад. Вызвалілі Украіну. Зоя вучылася ў VI класе ўкраінскай школы. Часць перайшла на Беларусь. У Клецку Зоя далей вучылася — у беларускай школе.

Калі савецкія войскі дайшлі на Беласточчыну, палявая пошта 15486 затрымалася ў Бельску-Падляшскім. Зоя пачала вучыцца ў Бельскай беларускай гімназіі. Быў 1944 год. Гімназія толькі што пачала існаваць. Зоя правучылася тут да канца вайны, закончыла 2-гі (6) клас.

Вучні актыўна займаліся мастацкай самадзейнасцю, спявалі ў хоры, ігралі ў спектаклях. Цэлая гімназія ставіла п'есу „Сярод кветак". Хто шыў касцюмы, хто рабіў сцэнаграфію, хто быў „артыстам". Зоя іграла першую ролю — ролю каралевы кветак Ружы. Спектакль ставіўся ў доме культуры, які стаяў разам са школьным будынкам. Выступалі для жыхароў горада, для ваенных. Зоя дагэтуль трымае „Падзяку" за ўдзел у працах школы. Захавала таксама многа здымкаў, не толькі са спектакляў.



*„Ружа" на сустрэчы ў Бельску (трэцяя злева).*

Пасля вайны бацькоў Зоі дэмабілізавалі і яны вярнуліся ў свой родны горад — Растоў-на-Доне. Там Зоя закончыла музычную школу, Інстытут культуры. Працавала ў асвеце 30 год.

Пасля вайны Зоя яшчэ доўга перапісвалася з сябрамі, але сувязі парваліся. Хто выехаў, хто выйшаў замуж...

Ад таго часу Зоя ні разу не пабывала на старых месцах, не магла паглядзець, што з імі сталася на працягу гэтых год. Захацела прыехаць на Беласточчыну, пабываць на магілах савецкіх воінаў, адшукаць сяброў са школьнай парты.

Зоя Іванаўна напісала ліст дырэктару белліцэя ў Бельску з просьбай прыслаць ёй запрашэнне. Дырэктар выканаў яе просьбу, і Зоя Іванаўна паявілася ў Бельску-Падляшскім. Удалося ёй знайсці сваіх аднакласнікаў — Альжбету Вжэцёнка (якая цяпер працуе кіраўніком гарадской бібліятэкі), Ірыну Артысевіч (настаўніцу ў Комплексе эканамічных школ), Нілу Артысевіч (працуе ў банку), Надзею Артысевіч (акушэрка). Сустрэліся яны са сваім любімым настаўнікам музыкі, які стварыў добры хор, аркестр і музычна афармляў спектаклі — Янам Тарноўскім. Якія цікавыя былі бяседы! Аказалася, што з іх класа выраслі і прафесары, дактары, інжынеры, педагогі...

Вельмі цікавай сустрэчай было спатканне з вучнямі белліцэя. Дырэктар Аляксей Карпюк расказаў вучням, як дастаў ліст ад незнаёмай Зоі Іванаўны, і даў ёй слова. Зоя Іванаўна расказала аб гэтых далёкіх гадах жыцця ліцэя, м. інш. прадставіла эпізод, як загінуў лётчык Пецця Карпін. На пахаванні былі не толькі лётчыкі, яго сябры, а ўсе жыхары Бельска. Альжбета Вжэцёнка ўспомніла, што нядаўна прыязджала на магілу свайго адзінага сына маці Пятра, Улляна Карпіна з Карэліі. Улляна Сцяпанаўна прывезла зямлі з магілы мужа, які загінуў пад Ленінградам, і палажыла на магілу сына, а на магілу ў Ленінградзе завезла жменю бельскай зямлі. Сакратар бельскай рады палажыў Карпінай на плечы шаль са словамі, што гэта — падарунак ад яе сына, які ёй не паспеў яго ўручыць. Гэта былі хвалюючыя хвіліны...

Сустрэчы працягваліся і ў класах. Вучні аглядалі дакументы і фатаграфіі, задавалі многа пытанняў. Была таксама сустрэча і ў Дзень жанчын. Зоя Іванаўна з задавальненнем іграла на фартэпіяна.

Ліцэй у Бельску зрабіў на Зоі Іванаўне, як яна сама кажа, каласальнае ўражанне. Адчуваецца, што яго дырэктар — гэта моцны педагог, моцны кіраўнік і арганізатар. Зоі Іванаўне спадабалася афармленне ліцэя, чысціня, культура паводзін вучняў, а асабліва — іх дасканалыя веды. Дзякуе вам за сустрэчы Зоя Бабуркіна, даўней Зоя Голубева — „Ружа". **(лук)**

## НІНА АМЕЛЬЯНЮК
# ГУТАРКІ АБ МОВЕ

**(Працяг са стар. 5)**

— складаныя прыслоўі, утвораныя шляхам спалучэння:

двух аднолькавых прыслоўяў (далёка-далёка, ледзь-ледзь),

двух блізкіх па сэнсу прыслоўяў (кругом-вакола, позна-рана),

двух прыслоўяў з рознымі словаўтваральнымі афіксамі (век-векам, як-ніяк).

**Д. Прыназоўнікі:**

— складаныя (з-за, з-пад-над, па-за);

**Ж. Часціцы:**

— **абы** ў спалучэнні з займеннікамі і займеннікавымі прыслоўямі, калі стаіць у прэпазіцыі (абы-хто, абы-як).

Калі паміж часціцай і займеннікам стаіць прыназоўнік — пішацца раздзельна (абы да каго, абы ў чым).

Раздзельна пішацца таксама з іншымі часцінамі мовы (абы здаровы, абы жыў).

— часціца **-небудзь** у спалучэнні з займеннікамі і займеннікавымі прыслоўямі (што-небудзь, куды-небудзь), — часціца **-такі**, калі знаходзіцца ў постпазіцыі (давай-такі, зноў-такі, усё-такі).

Калі стаіць перад словам, да якога адносіцца — пішацца раздзельна (такі прыехаў).

Калі паміж займеннікам або прыслоўем і часціцамі **-небудзь, -такі** ўжываецца часціца **ж(жа)** — пішацца раздзельна (дзе ж небудзь, сказаў жа такі).

— часціца **-то** з займеннікамі і дзеясловамі (ён-то бачыў, сказаць-то сказаў).

**Заўвага:** Раздзельна пішуцца часціцы **б (бы), ж (жа), што** (сказалі б, сказаў бы, пайшла ж, пайшоў жа, амаль што, толькі што, хіба што).

**З. Выклічнікі і гукапераймальныя словы:**

— складаныя (а-я-яй, о-го-го, о-ё-ёй; кось-кось-кось, ціп-ціп-ціп, ха-ха-ха).

## Этнаграфічнае акенца



*Дом у Старым Беразове.* *Фота У. Завадскага*

## ВЕР-НЕ ВЕР

Сніцца мне, што мы высока лётаем — я і Міша Саевіч з Вілюкоў. Ён упаў у яму, а я ў гной. (Ужо той чалавек памёр).

Дзмітры Крук выкапаў басейн на рыбу. Вада вельмі чыстая. Я туды ўлявела. Хачу вылезці. Бераг такі слізкі — няма за што ўзяцца рукамі. Але вады я не баялася і была ўпэўнена, што ўсё-такі адтуль вылезу.

Маці Марысі Вяршко хоча мне даць грошы (папяровыя банкноты), а я ёй кажу: „Каб хоць мне вашы грошы да рук не прысталі!" Яшчэ, як і прабудзілася, то думала, што я ёй сказала. Ці так: „Хацела б мець вашы грошы, але не пры пяккай рабоце!", ці сказала: „Я вашых грошай зусім не хачу мець!", а мо гэта ўспамін з банку: думала пра тое, каб не склеіліся банкноты.

Нібыта я настаўніца і жыву ў доме Дзмітрыя Дзіды. Мне там вельмі добра. Раптам Валянціна Дуда з мужам прыйшлі. Як яны пайшлі, то я з дома Дзіды ўцякла.

Нібыта на панадворку Гаўрылкавай Надзі я дацэнта Корча пакінула.

Вельмі часта сніцца, што сумленна выконваю абавязкі працаўніка адміністрацыі, а мне не плацяць.

**Мар'я Пень**

Мар'я! Усё было б добра, калі б ты лётала, але нікуды не ўвалілася. Так што з нейкай добрай справы выйдзе нешта кепскае, бо і твой знаёмы ўваліўся ў яму, а ты — што яшчэ горш — увалілася ў гной. У гэтым выпадку не мае значэння, што ён быў нябожчыкам.

**Што датычыць твайго другога сну, дык што з таго, што вада была чыстая, калі ты ў яе ўлявела і ніяк не магла выйсці, бо бераг быў слізкі!.. Спадзявайся нейкіх цяжкасцей!**

Наконт трэцяга сну, магу табе сказаць, што будуць цябе займаць непатрэбныя клопаты, аб чым сведчаць папяровыя грошы.

Астатнія сны, бадай, без значэння. Аб нечым жа трэба сніць...

**Астрон**

## САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Доўга я думала, што рабіць і вырашыла параіцца з табою. Мая праблема вельмі далікатная. Майго хлопца я пазнала, як гэта часта бывае, на забаве ў недалёкай вёсцы. Не быў гэта найпрыгажэйшы хлапчук, я таксама не прыгажуня, але затое вельмі добра гуляў, я проста яшчэ ніколі да гэтай пары не гуляла так добра, як з ім. Мы вучымся ў адным горадзе, дагаварыліся на сустрэчу, потым пачалі сустракацца амаль штодня. Я яго пакахала чыстым і першым каханнем. Цераз месяц я ўжо мела ключ да яго кватэры, у якой ён жыў адзін. Я ўжо жыла месяц у яго кватэры, але адносіны між намі былі, як між братам і сястрой. Майму каханаму хапіла пацалункаў. Я не вытрымала, сама ўлезла яму ў ложак. Было... Ах, гэтага нельга апісаць. Кахаліся да самай раніцы. Па месяцы мой каханы Ігар сказаў, што хоча са мной жаніцца. Я вельмі ўцешылася, але хацела яшчэ параіцца з бацькамі. У суботу я выбралася ехаць дахаты. У дарозе сапсаваўся аўтобус, і я мусіла вярнуцца, вядома, у яго кватэру. Вяртаючыся, згані, дарагое Сэрцайка, што бачу і чую. У хаце музыка іграе голасна, як ніколі. Увайшла найціхэй як магла, каб зрабіць яму неспадзяванку і што бачу! Мой каханы хлопец у абдымках незнаёмай мне дзяўчыны „плыве" ў танцы. Яшчэ адна пара сядзіць на канапе і аб чымсьці гутараць. Яны нават не заўважылі мяне. Я выбегла з хаты. Не ведала, што з сабой зрабіць, пайшла да сяброўкі. Вечарам расказала ёй усё, і сяброўка запрапанавала, каб я апошні месяц навукі жыла ў яе. Не мінуў тыдзень, як я, дзякуючы хіба адчаю, апынулася ў пасцелі той жа сяброўкі, было амаль так добра, як з хлопцам. Не ведала, што яна можа даць столькі раскошы... Аднойчы Ігар чакаў мяне перад школай з кветкамі і вельмі смутным тварам. Я згадзілася на размову. Прысягаў, што толькі мяне кахае, а гэтая жанчына прыйшла тады толькі так выпадкова. Добра ён яе і не знае. Між імі нічога не было. Прасіў, каб вярнулася да яго, плакаў, і я згадзілася. Ноч правялі мы разам і тады я зразумела, што мая сяброўка намнога больш радасці мне дала, чым мой хлопец. Я была ўпэўнена, што кахаю толькі сяброўку, ён мне стаў амаль абыякавы...

Дарагое Сэрцайка, парай што рабіць!

**Малгажата**

Малгосік! Пытаешся, што рабіць? Перш за ўсё перастань дурыць галаву Сэрцайку, бо ў яго і так работы поўна. Людзі вунь у чарзе стаяць, месяцамі чакаюць цярпліва адказу. Нешта замнога лесбіянак сярод беларусак у апошні час развялося. А мо ў галіне эротыкі наступіў нейкі новы выбух „прагрэсу"?!.

За навуку, дзяўчына, вазьміся, за навуку! Пэўна ж не паздавала ўсіх экзаменаў, га?! Або прынамсі адпачні — лета, паглянь, якое цудоўнае! Тады можа і ў галаве тваёй усё папарадку ўложыцца.

**Сэрцайка**




### ХАЛАДНІК

Халаднік — страва, вельмі распаўсюджаная на Беларусі, у Літве і ў Польшчы.

Традыцыйны польскі халаднік робяць наступным чынам. Спачатку трэба зварыць булён на мяккай цяляціне ці ялавічыне. Працадзіць і даліць белым жытнім баршчом, так, каб атрымаўся вінны смак. Зварыць крыху бацвіння, нарэзанага з укропам, і палажыць яго ў вазу. На бацвінне гэта ўліць шклянку смятаны і, мяшаючы драўлянай лыжкай, заліць усё гарачым баршчом, якога павінна быць каля дзвюх шклянак. Добра перамяшаць, палажыць крутыя яйкі, нарэзаныя агуркі (з па-старапольску — яшчэ ракавыя шыйкі і вараную асятрыну). Усё гэта палажыць у гарачы халаднік, а пасля вынесці ў халоднае месца. Падаючы на стол, палажыць на кожную талерку кавалак лёду. Можна таксама для халадніка выкарыстаць квас з кіслых агуркоў, варачы яго з булёнам, як боршч, або квас са шчаўя, адкінуўшы шчаўе. На сённяшні дзень замест ракавых шыек і асятрыны можам дадаць кавалак варанай ці печанай цяляціны.

Халаднікі можна падрыхтоўваць на мясным адвары і заквашваць іх натуральным квасам, напрыклад, з кіслых агуркоў, або квашаным чырвоным баршчом. Можна рабіць аднак яго і без булёну, а на малацэ ці смятане. Бываюць таксама фруктовыя халаднікі.

Сённяшнія гаспадыні робяць сучасны халаднік. Паўпачкі бурачанага канцэнтрату распусціць у палове шклянкі халоднай вады. У каструльцы разбіць венічкам дзве бутэлькі кіславатага ўжо кефіру. Свежы агурок без скуркі парэзаць, пасячы пучок маладога ўкропу, усё разам перамяшаць. З паўгадзіны халаднік павінен пастаяць у халодным месцы. Перад падачай дадаць нарэзаныя яйкі.

**Можна халаднік зварыць наступным чынам. У пасоленай і заквашанай лімоннай кіслатой вадзе зварыць два абабраныя і нарэзаныя скрылёчкамі буракі. Заправіць смятанай, дадаць абабраны і нарэзаны агурок, крутыя яйкі і нарэзаную печаную цяляціну. Пасаліць, дасыпаць пасечанага ўкропу і зялёнай цыбулькі, астудзіць. Замест буракоў можна ўзяць бацвінне з малымі бурачкамі.**

**Гаспадыня**

МНОГАЕ, БРАТОК, ГУБЛЯЕШ, КАЛІ „НІВУ" НЕ ЧЫТАЕШ!

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*У адным з гайнаўскіх прадшколляў: гульні на свежым паветры. Фота Яніны Чэрнякевіч.*

## АРХЕОЛАГІ

Ірына Лукша

— Ведаеш, Віця, — сказаў аднойчы пяцікласнік Косця свайму сябру, — я ў будучыні хачу стаць археолагам.

— Але ж выдумаў! — скрывіўся Косця. — Капацца ў зямлі, быццам крот!

— Капаць то можна абы-дзе і абы-як, — пераконваў хлопец сябра, — але трэба ведаць, дзе і ведаць як. А якая радасць, калі выкапаеш збанок залатых манет або старадаўні горад.

— Нічога ты не выкапаеш, — упарціўся Віця, — ужо без цябе ўсё выкапалі.

— Не выкапалі. Напэўна, не выкапалі, — рашуча сказаў Косця. — Мы з табой не раз бачылі невялікую горку ў лесе. Яна мохам абрасла. Можа, гэта старадаўні курган, у якім пахаваны князь з залатой зброяй і з канём, у якога залатыя падковы і сядло?

— Гэта можа быць! Давай у нядзелю рана пойдзем з рыдлёўкамі і будзем капаць. Можа, выкапаем залатыя падковы і аддамо ў міліцыю. Скажам, адкуль узялі. Вось слава нас чакае! У газетах пісаць будуць аб нас, — радасна гаварыў Віця.

— Добра, — згадзіўся Косця, — давай пойдзем, але нікому ні гу-гу! Зразумеў?

— Што ты? — усміхнуўся Косця. — За каго ты мяне маеш? Я ўмею трымаць таямніцу.

У нядзелю раненька, калі вёска яшчэ спала, Віця і Косця з рыдлёўкамі пайшлі ў лес. Дайшлі да ўзгорка, парослага мохам.

— Ну, пачынайма, у добры час! — сказаў Косця.

— У добры час, — сказаў Віця.

Хлопцы пачалі капаць. Раптам рыдлёўкі стукнулі ў нешта цвёрдае.

— Напэўна, куфар з золатам, — сказаў Косця.

— Не гавары ты, — адазваўся Віця, — капай, дык хутка выкапаем.

Капнулі некалькі разоў і выкапалі цэглу.

— Вось дзіва! — недаўмеўся Косця. — Няўжо калісь цэглу рабілі?

Капалі далей, адкладваючы цэглу за цэглай набок. Неўзабаве выкапалі некалькі кавалкаў шкла, а потым і цэлыя бутэлькі, ды такія, якіх сёння не відаць, ды яшчэ нейкія збуцвелыя анучы.

— Нічога не разумею, — паціснуў плячыма Косця. — Няўжо князя з бутэлькамі хавалі? Дык куды ж падзеўся яго шкілет?

— Капай, капай далей, — заахвочваў Віця.

Выкапалі зноў нейкія пабітыя

(Працяг на стар. 10)



*У конкурсе беларускай песні для школьнікаў паспяхова выступіў калектыў „Зарняткі" з Пашкоўшчыны. Вядзе калектыў дырэктар школы Янка Добаш. Фота Яніны Чэрнякевіч.*

Міхась Пазнякоў

### ЛЕТА

З кучаравага лесу
У лагодзе акрас,
З перапёлачнай песняй
Едзе лета да нас.

У вянку васільковым,
Вочы — свежасць крыніц.
Дорыць кожнаму повен
Кошык спелых суніц.

### ВАСІЛЁК

Яму прырода падарыла
Нябёс жывую сіняву,
У непагоду навучыла
Трымаць высока галаву.

### СУНІЦЫ

На паляне лясной,
За кашлатай сасной,
Ля бярозак ніцых
Расцвілі суніцы.

Ахінула сонца іх
Ласкай промняў залатых,
Спеліць дзень,
І два,
І пяць...
Ну а дзецям не ўтрываць:
Просяць Таня і Алесь,
Каб адкрыў ім цуды лес.
Увайшлі —
не надзівіцца,
У траве гараць суніцы.

### ПЧОЛЫ

Нацягнулі струны
Пчолы
Ад вуллёў
Да белых ліп,
І паплыў
Пад звык вясёлы
Мёд духмяны
У вуллі.

### НА ЛУЗЕ

З сябрам мы
На луг бяжым —
Так дзівосна там!
Мяккі, велічны кілім
Разаслала лета нам.

Кветкі вытканы
Ў траве,
Музыка гучыць...
З неба сонейка плыве
Ў гэту казку — адпачыць.

### НЕЗДАГАДЛІВЫ ДОЖДЖ

Я спяшаюся ў кіно,
Дождж гарэзіць нада мной:
„Як сыпну ў сто дубцоў,
Прагоніш цябе дамоў!"

Нездагадлівы ж ён —
У мяне ёсць парасон.
Не збаюся дажджу
І мультфільмы пагляджу.

### ПАМОЧНІЦА

Я абед варыць вучуся,
Працаваць я не лянюся.
І калі гатуе мама,
Памагаю ёй таксама.

Мыю посуд і прыборы.
Рэжу сыр і памідоры.
За цыбулю — не бяруся,
Бо расплакацца баюся.

# КРЫЖАВАНКА

**УПОПЕРАК:** 1) узор для наследавання, 4) ядавітая змяя, 9) красуня, 10) патоўчаная бульба на талерцы, 12) невялікае паглыбленне, упадзіна, 14) „Што гэта можа быць?", 16) пасадзіў яе дзед, але выцягнуць не мог, 17) горад на Палессі, 18) не адзін на падэшве абутку лёгкаатлета, 20) вялікае злучэнне караблёў або самалётаў, якія дзейнічаюць разам, 21) наш кантынент, 23) прадмет, 26) кавалак тканіны, 27) мусульманства, 28) прыгажуня, 31) напрамак або навучанне, 33) раздзяляе суседзяў, 34) фарфор, 35) за Атлантычным акіянам, 36) украінец у XIX стагоддзі.

**УНІЗ:** 1) вельмі важны дакумент, 2) аддзяленне ў вагоне, 3) цямнейшыя за маліны, 5) горад у Егіпце, вядомы з вялікай плаціны, 6) ядавіты паўзун, 7) парода разумных сабак, 8) жаніх у час вяселля, 11) літаратурны або музычны для выконвання на сцэне, 13) выключнае права, 14) задарма атрыманы, 15) царкоўная тэрытарыяльная адзінка, 18) геаметрычная форма ў прасторы, 19) грэс, 22) цокае пад нагой каня, 24) парушэнне нормы, паводзін або агульна прынятага парадку, 25) клопаты, турботы, непакой, 29) роданачальнік рускіх князёў, 30) вялікае возера ў Афрыцы, 32) удача, поспех, 33) жаданне, імкненне.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 22.**

**УПОПЕРАК:** крыжаванка, дэрбі, знахар, Тбілісі, вопратка, немцы, лодар, зіма, ачаг, язмін, кілім, радыятар, запінка, батрак, ненцы, Канстанцыя.

**УНІЗ:** рандо, жыхарка, вар'ят, нафта, адбіўная, труізм, міліцыянер, Вялікдзень, каза, рамантык, ігра, звястун, ліпень, раман, дэбют, араты.

**Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Віктар Корбут і Уладзімір Бягун з Мінска.**



# НАВУКА




— Ці вы доўга ўжо тут загараеце?

# АФАРЫЗМЫ

Ной меў трох сыноў: Сіма, Хама і, здаецца, Яфета. Хам заўважыў, што бацька п'яны, але не прыкмеціў, што ён геніяльны, што пабудаваў каўчэг і выратаваў свет. Людзі пяра не павінны браць прыклад з Хама.

*

Гаворым, гаворым, гаворым і, праўдападобна, здарыцца такое, што памрэм на запаленне языка і галасавых звязак.

*

Хто не ўмее служыць, таму нельга панаваць; хто не ўмее цешыцца з чужых поспехаў, таму напляваць на інтарэсы грамадства і такому нельга даручаць грамадскія справы.

*

Сціслаць — сястра таленту.

*

Калі здрадзіла табе жонка, радуйся, што здрадзіла табе, а не айчыне.

*

Лазня — месца, дзе пануе свабода, роўнасць і братэрства.

*

Ганарыстымі бываюць толькі індыкі.

**Антон Чэхаў**



# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## УЖО ЯРКА СОНЕЙКА ЗАКАЦІЛАСЯ

**(народная)**

Ужо ярка сонейка закацілася,
Закацілася,
Няшчасная дзеўчына нарадзілася,
Нарадзілася.
К вялікаму горачку прыключылася,
Прыключылася.
Куды ні падумаю — ўсё гора са мной,
Ўсё гора са мной,
Каму ні пажалуюся — усе судзяць, лаюць,
Усе судзяць, лаюць,
А мне, маладзенькай, плакаці кажуць,
Плакаці кажуць:
— Паплач, паплач, дзеўчына, па свайму гору,
Па свайму гору,
Ой, па свайму горачку па вялікаму,
Па вялікаму,
Ой, па свайму міламу па верненькаму,
Па верненькаму.
Ой, мілы ў дарожаньку сабіраецца,
Сабіраецца,
Ён з сваёю дзяўчынай ўсё прашчаецца:
— Бывай, Мар'ейка,
Бывай, бывай, Мар'ейка, бывай, дарага,
Бывай, дарага.
Вярнуся з дарожанькі — вазьму за сябе,
Вазьму за сябе,
Мы з табою, Мар'ейка, абвянчаемся,
Абвянчаемся,
Залатымі кольцамі абмяняемся!




*

Малады салдат, які прыехаў дадому ў водпуск, расказваў сваім бацькам аб вайсковым жыцці. Раптам ён замоўк і стаў глядзець праз вакно на вуліцу, па якой ішло чатыры дзяўчыны. Матка шапнула бацьку: „Глядзі, наш хлопчык ужо вырас. Да войска ён зусім не глядзеў на дзяўчат".

А сын уважліва глядзеў за дзяўчатамі, пакуль тыя не скрыліся за паваротам. Потым ён павярнуўся і сумна сказаў:

— Адна з іх ішла не ў нагу.

*

— Скажыце, вы не маглі б мне паменшыць зарплату? — пытае дробны чыноўнік свайго начальніка.

— Так, але нашто гэта вам патрэбнае?! — здзіўляецца начальнік.

— Справа ў тым, што мая жонка абяцала развесціся са мной, калі я не атрымаю прыбаўкі да зарплаты.

*

— Што вы слухалі ўчора ў оперы?

— Многа цікавага: Сміт на мяжы банкруцтва, місіс Браўн перафарбавала валасы, а Грыны разводзяцца.

*

У праграму ЭВМ уключылі пытанне:

— Ці чалавек можа есці ўсе грыбы?

— Усе, але некаторыя з іх толькі раз, — адказала машына.



Многія ўзносілі б сваіх жонак да неба, калі б былі ўпэўнены, што там яны і астануцца.